

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№8 (300) ЛІПЕНЬ 2021 ГОД

ПРЫВАТНАЯ ГАСПАДАРКА

## ПЕРСПЕКТЫЎНАЯ КУЛЬТУРА Ў ФЕРМЕРАЎ

**Самыя вялікія плошчы галегі у Беларусі знаходзяцца ў сялянскай гаспадарцы «Крыніца» Шумілінскага раёна. Галега павінна заняць годнае месца на кармавым полі Віцебшчыны. Пра гэта гаварылася на адным з нядаўніх тэматычных абласных семінараў.**

У Беларусі самыя вялікія плошчы перспектыўнай кармавой культуры знаходзяцца ў сялянскай (фермерскай) гаспадарцы «Крыніца» Шумілінскага раёна. Пад яе аддадзена амаль 300 га, у сезон за два ўкосу ўраджайнасць зялёнай масы складае 600 – 700 ц / га.

Кіраўнік гаспадаркі Юрый Сямёнаў успамінае, што першыя плантацыі галегі (іншая назва – казлятнік) на Шумілішчыне з'явіліся на мяжы 1980 – 90-х у «Племптушкарэпрадуктар» па ініцыятыве агранома Андрэя Рыжанкова, яе выкарыстоўвалі на травяную муку. Неяк на сельгаспрадпрыемстве вырашылі пераараць поле. Але пачатковец фермер угаварыў дырэктара вырасціць насенне, узяўшы на сябе ўсе выдаткі па іх ўборцы і ачыстцы. Так у «Крыніца» дваццаць сем гадоў таму з'явіліся першыя 20 га галегі.

Па словах Юрыя Сямёнава, ёсць такі выраз аб гэтым раслін: адзін год ганьбы для агранома і дзесяць гадоў гонару заатэхніка. І сапраўды, пры пасеве галегі трэба выканаць усе неабходныя тэхналагічныя працэсы. Але затым на полі можна прыязджаць толькі за кармамі. Галега не патрабуе ні ядахімікатаў, ні угнаенняў, а наадварот, насычае глебу азотам. Яна адзіная бабовая культура, у якой пры сушцы ня аблятае ліст. Вегетацыйныя магчымасці культуры дазваляюць практычна адразу пасля вясновай пасяўной кампаніі пачынаць корманарыхтоўку. Для Віцебшчыны перавагі вырошчвання галегі яшчэ ў тым, што ёю можна займаць малаконтурныя і закаменелыя палі. Навошта некалькі разоў на год ганяць тэхніку і несці немалыя выдаткі на участках у 2 – 5 га, калі можна пасеяць высокапрадуктыўную траву і забыцца пра іх. На адным з палёў у «Крыніца» галегі расла дваццаць гадоў запар і ўвесь гэты час давала належны ўраджай.

У гэтым годзе камітэт па сельскай гаспадарцы і харчаванню аблвыканкама папрасіў фермерская гаспадарка павялічыць збор насення галегі, каб па магчымасці забяспечыць усіх жадаючых заняцца вырошчваннем таннага і пажыўнага корму.

КФХ «Крыніца» мае больш за 3 тыс. га сельгасугоддзяў, каля 900 галоў буйной рагатай жывёлы, у тым ліку 320 – дойны статак. У гаспадарцы працуюць 70 чалавек. Асноўныя напрамкі дзейнасці – малочная жывёлагадоўля (гадавы надой на карову каля 5 тыс. кг), элітнае насенняводства шматгадовых і аднагадовых траў, збожжавых і крыжакветных культур.

**"vitbichi.by"**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

ЗДАРЭННЕ

## ЧАМУ ПРЫЧЫНА АВАРЫІ – ЛАСІ?

**Нядаўна ў Шумілінскім раёне адбылася аўтакатастрофа, у выніку якой пацярпела сямёра людзей. Прычынай аварыі стала дзікая жывёла – лось, які нечакана выйшаў на дарогу.**

Са зводак ДАІ стала вядома, што толькі за за дзень з-за сутыкнення з ласямі ў Беларусі загінулі тры чалавекі.

Так, з-за сутыкнення з ласямі на дарозе ў чацвер, 24 чэрвеня загінулі тры чалавекі. Двое ў Шумілінскім раёне Віцебскай вобласці, адзін – на Гомельшчыне, у Рэчыцкім раёне. У ДТЗ з ласём ў Шумілінскім раёне сямёра пацярпелых. Столькі людзей ехала днём у мікрааўтобусе «Фольксваген». Выжылі пяць чалавек, а загінулі двое. А ўжо вечарам таго ж дня, у 22.30 сутыкненне з ласём стала смяротным для 40-гадовага матацыкліста, які ехаў на матацыкле Yamaha па аўтадарозе М10 «Мяжа Расійскай Федэрацыі – Гомель – Кобрын".

Зараз у дачыненні да 57-гадовага вадзіцеля мікрааўтобуса, што трапіў у аварыю ў Шумілінскім раёне, як паведамілі ў Следчым камітэце, распачата крымінальная справа па ч. 3 артыкула 317 Крымінальнага кодэкса – Парушэнне правілаў дарожнага руху або эксплуатацыя транспартных сродкаў асобай, якая кіруе транспартным сродкам, што пацягнула па неасцярожнасці гібель двух чалавек.

Існуе версія, што паляванне стала наколькі дарагім справай, што людзі проста зачэхляют стрэльбы, тым самым спрыяючы множанью папуляцыі ласёў. Адгак яе ў РДГА "Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў" яе не пацвердзілі. Паводле Сяргея Цебрука, начальніка упраўлення палявання, рыбалоўства і турызму грамадства – паляўнічым дазволена страляць паляўнічых жывёл прапарцыйна колькасці. На гэты конт ёсць зацверджаныя нормы канфіскацыі, і ўсе яны асвойваюцца. У кожным раёне вызначаецца шчыльнасць жывёл на тысячу гектараў.

Але што менавіта прымушае ласёў выходзіць на дарогі? Вучоныя цвердзяць, што у ласёў дрэнны зрок, але ж затое нюх добры. Яны чуюць і людзей і машын.

Тады што рабіць кіроўцам машын, каб папярэдзіць сутыкненне? У краінах Эўропы, да прыкладу шведы і фіны, перыядычна сігналяць, калі едуць па лесе. Магчыма, такое і дапаможа, бо і ў Беларусі таксама ніхто не забараняе ехаць і сігналіць. Але калі вы бачыце, што лось стаіць пры дарозе, трэба знізіць хуткасць, таму што ён у любы момант можа кінуцца праз дарогу. Таму праязджаць трэба на самай мінімальнай хуткасці міма яго.

**Ян Вайтовіч**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

ЭКАЛОГІЯ

## КВЭСТ "ЧЫСТЫЯ ГУЛЬНІ"

**На Шумілінскім возеры адбылося мерапрыемства – экалагічны квест «Чыстыя гульні».**

Яго ладзілі актывісты ўжо добра вядомага шумілінцам грамадскага аб'яднання «ЭкаБум» пры падтрымцы партнёраў, прычым актывістаў арганізавалі праз сацыяльныя сеткі.

І вось нарэшце надыйшоў час: на берагі Шумілінскага возера прыбылі 9 каманд, у якіх было залічана па 3-4 актывісты ў кожнай. Пасля каротага інструктажу раздалі інвентару, а затым пачаўся старт акцыі. Усяго адна гадзіна часу мелі ўдзельнікі акцыі на тое, каб сабраць як мага больш смецця на берагах возера . Пры гэтым былі абавязковая ўмова, а гэта сарціроўка смецця падачас збору . Да прыкаду, у адзін пакет нельга была шкло разам з пластыкам, бо за парушэнне правілаў уводзіліся гэтак званыя штрафныя балы. Барацьба за перамогу была гарачай. Таму і за смецце смецце прыйшлося пазмагацца кожнай камандзе, прынамсі, у якіх была свая тактыка і стратэгія.

Лідар «ЭкаБума» Ірына Кулікава нагадала, што яны шукаюць такія формы працы, каб добраўпарадкаванне не нагадвала звычайны савецкі "суботнік". – Менавіта таму ў гэтым ключы ім надарыўся цікавым расійскі праект «Чыстыя гульні». Ці ёсць ад гэтага карысць у раёне? Безумоўна ёсць. Экалагічнай дзейнасцю спадарыня Ірына займаецца ўжо 16 год. Вынікі работы навідавоку – расце экалагічная ды і грамадская свядомасць людзей, болей за тое, гэта гуртуе грамадзянскую супольнасць. Што да экалогіі – нават на першы погляд мінакоў ля возера заўсёды абсалютна чыста. Аднак, агульны вынік квесту – 60 кілаграмаў сабранага грамадой смецця, якое шукалі і пад вадой. Нырца даваў Сяргей Белагалоў. Праўда «ўлоў» быў зусім невялікі – дно возера чыстае, што радуе шумілінцаў.

Былі і сваё пераможцы ў конкурсе – болей за ўсіх смецця сабраў Валерый Паладзі разам са сваімі дочкамі Вольгай і Дар'яй – да 10 кілаграмаў.. Пераможцы атрымалі прызы, сярод якіх аказаўся набор шматразовага пластыкавага посуду для пікніка ад ТАА «Альянспластрэсурс»

**Алесь Прыбярэжны**

ТУРЫЗМ

## ЭКСКУРСІЯ Ў ЦЕРБЯШОВА

**Амаль трыццаць гадоў таму ў вёсцы Цербяшова Шумілінскага раёна на беразе Заходняй Дзвіны былі знойдзены рэштkі мамантa. Сярод іх ніжняя сківіца гіганта з зубамі, падобнымі на след абутку дарослага чалавека (імі травяадны гігант пераціраў зялёную масу). Такога цэльнага фрагмента няма ў ніводным музеі краіны, апроч Шумілінскага. Карэспандэнт «ВВ» пабываў у вёсцы, дзе калісьці блукала дагістарычная жывёла.**

Па словах выконваючага абавязкі старшыні Светласельскага сельсавета Людмілы Васільевай, зараз у Цербяшове пастаянна жывуць пяць чалавек, і на лета прыязджаюць больш за дваццаць дачнікаў. У вёсцы тры вуліцы — Рачная, Цэнтральная і Палявая.

Як расказваюць старажылы, пры калектывізацыі сюды звазілі насельнікаў навакольных хутароў. Напэўна, так сфарміраваліся дзве апошнія вуліцы. А першая была аўтэнтычнай і цягнецца ўздоўж правага берага ракі на некалькі сотняў метраў. Вёска даволі раскідзістая па плошчы. У савецкія часы тут стаяла больш за сотню дамоў.

**Сапраўдны палкоўнік**

Калі ехаць з Шуміліна, то першым стаіць дом палкоўніка запасу Расійскай арміі Уладзіміра Баранава, які нарадзіўся ў Віцебску. Яго маці паходзіла з Цербяшова. Уладзімір Пятровіч служыў у авіяцыі і супрацьпаветранай абароне. У запас выйшаў у 1997-м, потым дзесяць гадоў працаваў у Падліковай палаце РФ і жыў у Рэутаве Маскоўскай вобласці. Ледзь не кожны дзень бывае на рыбалцы на Дзвіне, а зімой — на возеры ў Башнях. У Цербяшове Уладзімір Баранаў бязвыезна пражывае чатырнаццаць гадоў, у Расію на пабыўку часам выбіраецца жонка Надзея Іванаўна. Зараз у дзядулі з бабуляй пакуль гасцююць тры ўнучкі з Масквы.

А самога Уладзіміра Пятровіча ў Расію не цягне, бо «тут мая радзіма і прырода».

**Дамой — на цеплаходзе**

Экскурсію па Цербяшове пагадзіўся правесці Мікалай Шылін, які тут вырас. Да пенсіі ён чвэрць стагоддзя адпрацаваў у Віцебску вадзіцелем інкасатарскай службы. Цяпер разам з жонкай Таісіяй Дзмітрыеўнай пастаянна пражывае на дзедавай сядзібе, якую сцеражэ лабрадор Лінда. Раней разводзілі свіней,

*(працяг на стар. 2)*

ТУРЫЗМ

*(пачатак на стр. 1)*
зараз у гаспадарцы толькі куры і агарод. Жонку Мікалай у свой час сустрэў і перавёз у Віцебск з суседняга Полцева, дзе яна працавала дырэктарам школы.

Мікалай Шылін памятае, як да Сінякова па рацэ хадзілі цеплаходы «40 гадоў Кастрычніка» і «Мінай Шмыроў», пасажырская баржа. Потым да Бешанковіч хвалі бараздзіла судна на паветранай падушцы «Зарніца», якое развівала вялікую хуткасць. Мікалай згадвае, што на старым цеплаходзе дабіраўся да бацькоўскага дому гадзіну, назад супраць плыні — дзве. Калі судна не магло прышвартавацца да мелкаводнага правага берага, пасажыраў высаджвалі на левым, а потым радня перавозіла гасцей на лодках. Дарэчы, фарватар у Цербяшове называюць «параходная яма». Відаць, гэты выраз паходзіць з канца XIX ст., калі па рацэ пайшлі самаходныя судны.

Рыбалка на Дзвіне ў Цербяшове ўжо не тая, як раней. Мікалаю Шыліну запомнілася, як у дзяцінстве дзед прынёс вугра. А яшчэ наш экскурсавод расказаў, як з бацькам ездзіў да радні ў Камлі Бешанковіцкага раёна, што знаходзіцца на супрацьлеглым беразе. На лодку ставілі падводу, а распрэжанага каня трымалі за аброць, і ён плыў самастойна.

**Паветра, сонца і вада**

Святаслаў і Наталля Вератынскія купілі дачу на першай берагавой лініі ў 1990-м. Меркавалі, што будуць яе наведваць на рачным транспарце. Але ў навігацыю 1991-га пасажырскі рух па Дзвіне з-за вялікіх страт быў адменены.

Гаспадары значна абнавілі дом і на пенсіі праводзяць тут час з пачатку вясны да канца восені. Праход на ўчастак з боку ракі вымушана агарадзілі ад ласых да ўраджаю зайцаў. Больш складана вядзецца барацьба з драздамі, якім даспадобы любыя ягады. Нахабныя птушкі нічога не баяцца, і некалькі разоў падчас чарговага налёту іх нават лавілі проста за лапы.

З 1 чэрвеня і да канца лета ў Святаслава Здзіслававіча і Наталлі Аляксееўны гасціць унучка Варвара, якая пераходзіць у шосты клас. Ёй падабаецца Цербяшова тым, што тут свежае паветра і мала машын, таксама ёсць свая кампанія з равеснікаў.

У мінулым годзе Варвара разам з мамай здзейсніла вандроўку на ве-ласіпедах на старую панскую сядзібу ў Полцеве. Але сёлета туды ехаць страшнавата, бо ў ваколіцах блукае небяспечны звер.

**Жанчыны і мядзведзь**

Таісія Шыліна і Ніна Сапронава — аматаркі скандынаўскай хадзьбы. Каля месяца назад яны рушылі па любімым маршруце. Метрах у сямідзесяці па дарозе Таісія Дзмітрыеўна заўважыла нібыта мужчыну ў чорным касцюме, які сагнуўся і корпаўся ў траве. Нарэшце фігура ўзнялася, і аказалася, што гэта мядзведзь. Ён ускінуў пярэднія лапы і павольна пайшоў на жанчын. Таісія Шыліна здранцвела, а Ніна Сапронава не разгубілася, заклала ў рот два пальцы і гучна свіснула. Звер спыніўся, а потым зноў пайшоў наперад. І толькі пасля паўторнага папярэджання жанчыны касалапы раптам знік.

**Кароткая дарога**

Адну з дзвюх сваіх праблем насельніцтва Цербяшова вырашыла з дапамогай сельгаспрадпрыемства «Агра-Баравінка». Справа ў тым, што паміж вуліцамі быў закінуты надзел у некалькі гектараў, дзе расла высокая трава і атабарылася інвазіўная расліна — залатарнік, які па агрэсіўнасці роўны баршчэўніку Сасноўскага. Сухастой вясной пагражаў пажарамі. Цяпер тут растуць зерневыя.

На парадку дня застаецца стан кароткай дарогі да абласнога цэнтра, да якога па ёй 30 км (праз Шуміліна ўдвая больш). Бальшак праходзіць праз Старое Сяло Віцебскага раёна. Ім карыстаюцца не толькі жыхары і госці Цербяшова, але і Лажка, Дубраўская, Полцева. І калі па стане дарогі суседняга рэгіёна прэтэнзій няма, то некалькі сот метраў шумілінскага падпарадкавання вясной і восенню выклікаюць галаўны боль у вадзіцеляў. Праўда, аднойчы мясцовыя ўлады пускалі туды грэйдар, але праблему ён не вырашыў.

**Дзе біўні?**

У 1992 годзе экскаватаршчык шумілінскай ПМК-25 Уладзімір Дзягілеў, знаходзячыся ў бацькоў у Цербяшове, знайшоў на беразе Дзвіны незвычайныя косткі. Пра знаходку расказаў сыну Сяргею, які разам са стрыечным братам Мішам пабег да ракі. Удваіх узнялі на высокі бераг цяжкую ніжнюю сківіцу, сабралі косткі. Раніцай прыехалі прадстаўнікі раённага музея і адправілі знаходкі на экспертызу ў Акадэмію навук Беларусі. Як высветлілася, на момант гібелі маманту было 30 — 40 гадоў. Гігант важыў 7 т, меў рост 3,5 м і даўжыню 4 м. Вілка меркаванага перыяду яго жыцця ўнушальная — 320 — 19 тыс. гадоў назад. Застаецца загадкай, ад чаго загінула жывёла: праваліласяпад лёд, пераходзячы раку, была паранена біўнем саперніка ці проста «вымерла, як мамант»

44-гадовы вадзіцель Шумілінскага РЭС «Віцебскіх электрасетак» Сяргей Дзягілеў згадвае, што праз год на тым месцы яшчэ накапаў касцей маманта і здаў іх у музей. Хлопцу хацелася знайсці біўні жывёлы, ён нават прайшоў 4 км уніз па рацэ. Але безвынікова. Затое ўражанняў засталося на ўсё жыццё.

**vitbichi.by**

КРЫМІНАЛ

# МАЛАТКОМ ПА ГАЛАВЕ

**Жыхар Шумілінскага раёна разбіў сабутэльніку галаву малатком, паведамілі ва УУС Віцебскага аблвыканкама.**

7 ліпеня 66-гадовы вясковец і 34-гадовы жыхар Шуміліна выпівалі разам у кампаніі. Пенсіянер неўзабаве сышоў па асабістых справах, але праз пару гадзін паспрабаваў зноў далучыцца да застолля. Атрымаўшы адмову, мужчына пашкодзіў плот. Каб паправіць паломку, ён адправіўся за малатком. Аднак чарговае выр-танне да злашчаснага дому завяршылася сваркай, у выніку якой пенсіянер некалькі разоў ударыў шумілінца малатком па галаве. Пацярпелага шпіталізавалі ў рэанімацыю. Узбуджана крымінальная справа.

**Сяржук Крупскі**
**паводле матэрыялаў УУС**

СПЯКОТА

# АНАМАЛЬНАЯ СПЁКА Ў ШУМІЛІНЕ

**Такіх анамаліяў у нашай мясцовасці даўно не было, нават старажылы не прыпомняць. Увогуле, па ўсёй краіне трэці тыдзень запар устойлівая трымаецца спёка да + 33 °С – у Беларусі зноў горача, жоўты, а месцамі і аранжавы ўзровень небяспекі.**

Спякота, якая ўсталявалася ў апошнія дні (у першай палове ліпеня), спадае не хутка. Па прагнозах надвор'я, гэта цягнецца не менш за 10 дзён і надалей спадзе не намнога.

Па прагнозах сіноптыкаў і надалей на большай частцы краіны максімальная тэмпература паветра дасягнула ад + 27 да +28 і +30 ° С.

Самыя гарачыя дні былі 9 і 10 ліпеня – у шмат якіх раёнах Беларусі максімальная тэмпература паветра паднялася да +34 ° С, а ў Шуміліне да +33.

У Шуміліне пакуль такі несуцяшальны прагноз. Але ў рэальнасці можа быць і гарачэй. Дождж прагназуюць толькі ў другой палове ліпеня. І яшчэ не факт, што ён будзе. Праўда і тое, што ў другой палова ліпеня будзе крыху с прахаладой: тэмпература паветра днём апусціцца да +23 да +25. І яшчэ сіноптыкі абяцаюць дажджы с навальніцамі.

Выконваем правілы паводзін пры спякоце!

**Алесь Шумскі**

ПЕРАСЛЕД ЖУРНАЛІСТАЎ

# ПЕРАТРУСЫ І ЗАТРЫМАННІ Ў ВІЦЕБСКУ

**У віцебскіх журналістаў прайшліператрусы. Віталь Скрыль затрыманы.**

8 ліпеня прайшліператрусы ў віцебскіх незалежных журналістаў Змітра Казакевіча, Вячаслава Лазарава, Уладзіміра Лунёва.

Пра затрыманне журналіста Віталя Скрыля праваабаронцам паведаміла яго адвакатка. Паводле яе, Скрыль быў дапытаны ў следчым камітэце як падазраваны ў злачынстве, прадугледжаным арт. 369 КК («Публічная абраза прадстаўніка ўлады»). Пасля допыту яго затрымалі на 72 гадзіны і змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання.

У гэты ж дзень адбыўсяператрус у кватэры журналіста-фрылансера Змітра Казакевіча. Пасля ператрусу, які працягваўся каля трох гадзін, міліцыянты забралі ноўтбукі жонкі і дачкі журналіста, два сістэмныя блокі, стары тэлефон, два фотаапараты і невялікі бел-чырвона-белы сцяжок. Паводле жонкі журналіста Ірыны, падставай для ператрусу была крымінальная справа, заведзеная паводле арт. 188 КК на нявызначаную асобу, якая быццам бы «ачарніла» ў сацсетках лепельскага міліцыянта Міхно. Падчас ператрусу журналіста дома не было, ён на волі.

Ператрусы адбыліся таксама ў маці журналіста Вячаслава Лазарава, а таксама па месцы прапісцы фрылансера Уладзіміра Лунёва. Падрабязнасці удакладняюцца.

**Янка Прас**

# ВЫЙШАЎ НА ВОЛЮ

**Журналіст Віталь Скрыль пасля 3 сутак арышту выйшаў на волю.**

11 ліпеня з віцебскага ізалятару часовага ўтрымання выйшаў журналіст Віталь Скрыль. За кратамі ён прабыў трое сутак як падазраваны ў крымінальнай справе паводле арт. 369 КК РБ («Абраза прадстаўніка ўлады»). З яго ўзятая падпіска аб неразгалошванні. Сустрэць яго на выхадзе з ІЧУ прыйшлі некалькі чалавек, але не дачакаліся – Скрыля вызвалілі амаль на гадзіну раней адведзенага 72-гадзіннага тэрміну.

Віталь Скрыль быў затрыманы 8 ліпеня. У гэты ж дзень у іншых віцебскіх журналістаў адбыліся ператрусы з адабраннем лічбавай тэхнікі. Крымінальная справа, па якой затрымліваўся Віталь Скрыль, была заведзеная ў дачыненні «нявызначанай асобы» за абразлівы каментар у сацсетках. Віталь Скрыль мае зараз статус падазраванага. Можа ў любы момант быць выкліканы ў СК для правядзення следчых дзеянняў. Падпіскі аб нявыездзе з яго не ўзялі. Віталь не выключае, што гэта зроблена спецыяльна, каб прымусіць яго выехаць за межы Беларусі.

У ізалятары ён знаходзіўся з іншымі затрыманымі ў той дзень актывістамі, у тым ліку з наваполацкімі прафсаюзнымі лідарамі «Нафтану». Для Скрыля гэта першы падобны досвед. Раней яго некалькі разоў судзілі быў паводле адміністрацыйных справаў за незаконны выраб прадукцыі СМІ (раней ч.2 арт. 22.9 КаАП), але тады былі толькі штрафы.

Па артыкуле 369 КК раней прадугледжвалася максімальнае пакаранне да 3 гадоў абмежавання волі (так званая «хімія»). У траўні 2021 году ў крымінальны кодэкс былі ўнесеныя змены, зараз па гэтым артыкуле прадугледжваецца да 3 гадоў пазбаўлення волі.

**Уладзімір Бяляўскі**

АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДВОЕ НА ПОЛЮСЕ ПРАЎДЫ

**Колькасць мярзотнікаў, якая расце па экспаненце, — выдатная нагода, каб «збірацца ў кучу», або хаця б у зграю, табун ці статак.**




«За намі праўда». Гэта цытата з выступу адзінага палітыка (АП) у Брэсце 22 чэрвеня. Хто б сумняваўся. Ёсць такая ўласцівасць у праўды: яна заўсёды ідзе за намі. У гэтым лепшым з сусветаў ёй больш няма за кім ісці.

У гады супрацьстаяння дзвюх сістэмаў праўда была на нашым баку. А як жа інакш? Не магла ж яна быць на баку купкі капіталістаў, што тлусцелі на эксплуатацыі ўласных народаў і народаў краін трэцяга свету.

Капіталістаў — купка. Эксплуатаваных — большасць. А дзе большасць — там і праўда. Але ў 1974 годзе ў выніку «Красавіцкай рэвалюцыі» была зрынутая дыктатура ў Партугаліі — і панеслася... тое, што на бытавай мове прынята называць «эфектам даміно», на мове паліталогіі атрымала назву «трэцяй хвалі дэмакратызацыі 1974–1991».

Фінальным акордам трэцяй хвалі стала крушэнне таталітарнай камуністычнай сістэмы і яе флагмана — СССР, што дазволіла амерыканскаму палітолагу Фрэнсісу Фукуяму абвясціць пра канец гісторыі.

Гэта была не першая спроба такога кшталту. У Фукуямы быў папярэднік — Маркс. Нагадаю фінал «Маніфеста камуністычнай партыі»: «Пралетарам няма чаго губляць, акрамя сваіх ланцугоў. Набудуць жа яны ўвесь свет».

Свету пралетарыяў, свету, у якім адсутнічаў бы падзел людзей на класы эксплуататараў і эксплуатаваных, не атрымалася. Але спробы пабудаваць такі свет рабіліся неаднаразова. Яны абышліся чалавецтву амаль у 100 мільёнаў жыццяў. Па агульнай колькасці ахвяр па-за канкурэнцыяй аказаліся кітайскія таварышы — 65 мільёнаў, а па эфектыўнасці (у суадносінах колькасці знішчаных да агульнай колькасці насельніцтва) — чырвоныя кхмеры ў Кампучыі.

Але якой бы колькасцю ахвяр ні вымяраліся поспехі камуністаў на шляху да бяскласавага грамадства, праўда нязменна была на іх баку.

Канец гісторыі Фукуяма звязваў з паўсюдным распаўсюджваннем ліберальнай дэмакратыі заходняга ўзору, што павінна было сведчыць пра канчатковы пункт сацыякультурнай эвалюцыі чалавецтва і фарміраванне канчатковай формы ўрада.

Што тычыцца формы, прадказанне амерыканскага палітолага спраўдзілася. Прынамсі, адразу і не прыгадаеш краіну, у Канстытуцыі якой не абвяшчаўся б прынцып падзелу ўладаў, а адзінай крыніцай улады не абвяшчаўся б народ.

**Што ў сухім астатку?**

Расійскі палітолаг Кацярына Шульман любіць нагадваць, што прадметам паліталогіі з'яўляюцца трансфармацыі («яна цікавіцца тым, што мяняецца»). Адсюль — нелюбоў паважанага мной аўтара да гістарычных паралеляў. У кнізе «Практычная паліталогія. Дапаможнік па кантакце з рэальнасцю» чытаем: «Час перастаць разумець літаральна тое, як Маркс жартаваў з Гегеля: гісторыя не паўтараецца ні як трагедыя, ні як фарс. Паколькі колькасць гістарычных фактаў бясконцая, вялікая верагоднасць, што надзвычайнае падабенства мінулага з сучаснасцю заснаванае альбо на магіі лічбаў (1914/2014), альбо на высвечванні адных з'яў і ігнараванні іншых».

Шульман маршчыцца пры слове «каляіна». Мне ж яно падабаецца. Гістарычны працэс без каляіны — як шлюбная ноч без нявесты. Тым не менш абсалютызаваць каляіну не варта. «Усё цячэ, усё мяняецца», — сцвярджаў старажытнагрэчаскі філосаф Геракліт (554–483 да н.э.). Мяняецца з часам і каляіна.

Савецкі Саюз распаўся ў 1991 годзе на 15 незалежных рэспублік, але ні адна з іх, калі атрымала свабоду выбару, не здолела вырвацца з цывілізацыйнай каляіны.

Сталі часткай Еўрасаюза Літва, Латвія і Эстонія — гэта значыць, рэспублікі, чые народы на працягу стагоддзяў мелі магчымасць асвойваць культурныя інавацыі Захаду. Дзякуй Балтыйскаму мору! Нядзіўна, што ўключэнне ў склад СССР у 1939–1940 гадах большасць літоўцаў, латышоў і эстонцаў успрынялі як акупацыю.

У шасці мусульманскіх рэспубліках усталяваліся палітычныя рэжымы, якія можна смела аднесці да сучасных султанатаў. Зразумела, не без нацыянальных асаблівасцяў, але ні адна з іх не выходзіць за цывілізацыйныя межы.

Што ў сухім астатку? У сухім астатку шэсць праваслаўных рэспублік. Усе яны на перабудовачнай хвалі эйфарыі заявілі пра сваё жаданне стаць часткай Вялікай Еўропы. Аднак час усё расставіў на свае месцы. За тры дзесяцігоддзі нікому змяніць сваю цывілізацыйную ідэнтычнасць так і не атрымалася, што не выключыла расколу ўнутры тэрыторыі па няшчасці: у той час, як у Арменіі, Грузіі, Малдове і Украіне праеўрапейскія настроі ўзмацняюцца, у Беларусі і Расіі (у першую чаргу ў палітычных элітах) ідзе адваротны працэс…

**Расслабляцца рана**

«Мы даўно ваюем». Але мы — гэта хто? З чаго вынікае, што і ў аўтара «Азбукі паліталогіі» маецца падстава прылічваць сябе да ліку абраных, аб'яднаных у кучу, зграю, статак, рой, табун і пазначаных для сіцілацыі займеннікам першай асобы множнага ліку «мы»? Можа ён, заклапочаны пошукам шынялю, дарэмна марнуе час?

Не, не дарэмна! Залогам таму з'яўляецца праўда. Здрадзіць можа сябар, жонка, сяброўка жонкі, але праўда — заўсёды за намі. І ўсё роўна, у большасці мы ці або безназоўнай вышыні нас засталося толькі двое — Беларусь і Расія. Гэта і раздражняе тых, хто сёння ў большасці.

22 чэрвеня 2021 года свет канчаткова падзяліўся на тых і на гэтых: на «мярзотнікаў па той бок мяжы» і носьбітаў праўды, чыя роля ў гісторыі на бліжэйшыя гады звядзецца да дэманстрацыі бяссілля «іх санкцый».

Маштаб задачы складана пераацаніць: уклад у сусветны ВУП толькі ЗША і Еўрасаюза перавышае 50%, а Беларусі і Расіі — не дацягвае і да 2%. Здавалася б, слон і моська. Але час панавання вульгарнага матэрыялізму з яго скрупулёзнымі падлікамі матэрыяльных рэсурсаў застаўся ў мінулым. На баку аб'яднанай моські сёння праўда, памножаная на духоўнасць, і 135-е месца Расіі ў індэксе карупцыі.

Зразумела, расслабляцца рана. Нашы перспектывы акрамя падкопаў з боку мярзотнікаў упіраюцца і ў дысцыпліну. Нягледзячы на наяўнасць кадраў, якія авалодалі ўсімі тэхналогіямі, безгаспадарчасць часам здзіўляе. А не дай бог вайна? «Чаму цяпер, у адносна мірны час мы не хочам папрацаваць? Усё ж у дысцыпліне. Толькі дысцыпліна» (24.06.2021).

Ці здольныя разумныя людзі, аб'яднаныя вакол нейкага чалавека, у сітуацыі, якая склалася, наладзіць дысцыпліну? Я б даў на гэта пытанне, што паўтараецца з года на год, сцвярджальны адказ. Мой аптымізм заснаваны на колькасці мярзотнікаў, якая расце па экспаненце. Бо нішто так не мабілізуе ўнутраныя рэзервы, як наяўнасць мярзотнікаў ля знешніх межаў. Яны для таго і плодзяцца. Іх для таго і плодзяць.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.by**

ЭКСПЕРТ

# "…НИ ОДИН ПЛЕБИСЦИТ ЛУКАШЕНКО БОЛЬШЕ НЕ ВЫИГРАЕТ»

**Экономист Сергей Чалый объясняет, почему действия властей укладываются в одно образное выражение — «бомбить Воложин».**

— Операция по принуждению к любви, которая началась 9 августа (2020 года, — Прим.), ни к какому успеху не привела. Она привела к тому, что это уже не операция по принуждению к любви, а попытка окончательного решения белорусского вопроса, — анализирует последние события на своем канале экономический аналитик Сергей Чалый.

Он объясняет, почему сейчас положение властей можно считать безвыходным:

— Они сейчас находятся в безвыходной ситуации, связанной с тем, что, с одной стороны, вперед идти опасно, потому что чем дальше ты движешься в направлении максимального страха, тем дальше ты погружаешься в ряд мировых лидеров-изгоев, чего Лукашенко хотел бы избежать. Но его собственный страх показать слабину подгоняет в эту сторону.

С другой стороны, очевидна невозможность выиграть ни один плебисцит именно по той причине, что рейтинг никуда не делся, он не вырос, любовь не вернулась.

Все меры, предпринятые властью в попытке противостоять санкциям, Сергей Чалый характеризует словосочетанием «бомбить Воложин». При этом даже таких инструментов, по его мнению, осталось чрезвычайно мало.

— Что еще может сделать власть в качестве ответных санкций? Только «бомбить Воложин», что уже и происходит. Мы сейчас наблюдаем, как удар наносится по гражданскому обществу. Макей это анонсировал, называя гражданское общество «любимой игрушкой Запада». Неужели эти люди всерьез думают, что Западу нужно наше гражданское общество, а не нам самим?

Приходят по бизнесам. Понятно, к тем, кто может заплатить пару десятков миллионов за свое освобождение. Это довольно простая схема и это будет такое окунание в реальность людей, которые до сих пор считали, что у нас все хорошо, что происходят реформы и для бизнеса все прекрасно.

С попыткой закрывать любые общественные организации работает очень простой принцип — все, что так или иначе может раздавать деньги, будет рассматриваться как враг, как финансирование протестных действий. А для власти все сейчас воспринимается как протестное действие, любое несогласие с ними фактически готовы записывать в качестве преступления.

Проблема заключается в том, что все, что мы сейчас наблюдаем, включая конституционную реформу, все телодвижения с Совбезом, с придумыванием военного положения, чрезвычайного положения и т.д., — это понимание осознания того, что ни один плебисцит Лукашенко больше не выиграет.

И, в общем-то, нанести ущерб внутри страны уже, похоже, особо некому, внутри бомбить осталось мало чего. Механизмов компенсации на санкции нет. При этом, очевидно, что они будут ужесточаться, потому что система по-прежнему работает в одном и том же режиме, когда у силовиков есть карт-бланш на продолжение усиления и расширения репрессий, они по-прежнему работают в режиме «найдем и накажем каждого».

И в данном случае, как я понимаю, наказывать нужно всех. Сейчас наши правоохранительные органы превратились в машину по производству признательных видео. Это абсолютная архаика, которая не имеет никакого отношения к современности и цивилизованному миру.

Очевидно, что инструментов у власти на самом деле чрезвычайно мало. Да, можно проявить гнев, можно своим сделать хуже, можно у кого-то деньги отобрать. Но это не компенсирует негативные последствия для экономики или для уровня жизни, — полагает экономист.

Он прогнозирует увеличение давления на дипломатов, а также изменение курса национальной валюты.

— Потери по платежному балансу, вероятнее всего, скажутся на курсе национальной валюты. Думая о том, что еще может произойти, — могут последовать враждебные действия по отношению к иностранцам, например, дипломатам, находящимся на территории Беларуси, — говорит Чалый, считая символичной проломанную недавно стену в ограждении латвийского посольства в Беларуси.

**"Салідарнасць"**
**gazetaby.info**

ЮБІЛЕЙ ПАЭТА

# БЕЛАЕ ВІНО І ЧЫРВОНАЕ: УЛАДЗІМІРУ НЯКЛЯЕВУ 75 ГОД

**Уладзімір Някляеў — адзін з тых, каго прынята называць сумленнем нацыі. Чалавек, які прайшоў выпрабаванне і «меднымі трубамі», і турмой. Яго раманы не пакідаюць абыякавых, яго паэмы заварожваюць і ўлюбляюць. 9 ліпеня Уладзімір Пракопавіч адзначае сваё 75-годдзе.**

***— 75 вельмі прыгожая лічба. Гэта тры разы па 25. Ужо ёсць немалы досвед, шмат дасягненняў. Але, мне здаецца, мала хто прыходзіць да гэтай даты з такой 25-гадовай душой, як у вас. Ці памыляюся?***

— Чаму мала хто? Па-мойму, да скону ў кожным чалавеку душа нават не 25-гадовая, а дзіцячая...

Давайце вось што зробім. Нядаўна я скончыў раман «Гэй Бэн Гіном», у якім шмат аўтабіяграфічнага. І калі вы не супраць, паспрабую адказаць на некаторыя вашы пытанні цытатамі з рамана.

Вось адказ на першае:

«Паўсюль папераздзе Віктара (такое імя ў героя рамана) бегла ягонае дзяцінства. Вунь яно бяжыць пастушком па выгане, грае на зробленай дзедам са старой яблыні жалейцы. Грае гучна, жалейка з прыгожым чорна-белым каровіным рогам, і мелодыя „Цяцеркі“, з якой ён пачынаў вучыцца граць, разліваецца па абодвух берагах Крэўлянкі, цячэ па пагорках. Вось дабегла дзяцінства да Багушоўскага лесу, куды паклікаў маленькага Віктара дзед, каб дапамог састагаваць, бо дождж можа пайсці, падсушанае ў пракосах сена, і, калі паставілі стагі, Віктар залез на адзін, лёг, глядзеў у неба, на якім высыпалі зоркі, а дзед, прываліўшыся спінай да стога, расказваў яму казку.

Калі Віктар, ужо дарослы, успамінаў сябе маленькага, дык не бачыў асаблівай розніцы паміж сабой тым і цяперашнім. Бо што змянілася? Тое, што ён чытае лепш, чым чытаў у пяць гадоў? Але нават гэта — яшчэ як сказаць, калі тады ўзнікала адчуванне вышыні, на якую ўздымаўся ён з тымі, пра каго чытаў, а цяпер не ўзнікае.

Ці яго змяніла тое, што скончыў школу, тэхнікум, інстытут, што болей ведае? А што ён ведае, пра што дазнаўся? Пра тое, што пісалі шумеры? Ці пра тое, што ў космасе ёсць чорныя дзіры? Дык яны і ў ім ёсць. І ў цяперашнім, і ў малым былі — ён з жахам у іх глядзеў.

У самім сабе ён заўсёды заставаўся гэткім самым, якім быў некалі. Само жыццё ў сабе адчуваў нязменным, змяняліся толькі ўмовы, абставіны жыцця. Ягоныя дэкарацыі. Са стога сена пад Багушоўскім лесам жыццё перанесла яго на сцэну Крамлёўскага палаца з'ездаў — сам ён дзеля гэтага нічога не рабіў. Толькі прымаў прапановы. Гульню ў прапанаваных дэкарацыях. І гуляўся ў іх той самы хлопчык са стога сена пад Багушоўскім лесам»…

***— Ці можна сказаць што 2020 стаў для вас жыццёвым падарункам? Для краіны, мне здаецца, ён, сапраўды, як доўгачаканае дзіця, што пра гэта думаеце? Няма задумы рамана пра гэтыя падзеі?***

— Складана адказаць на гэтае пытанне. Таму нават цытаты ў адказ не магу падабраць, а не тое што раман напісаць. Хоць у задуме ён ёсць.

У жніўні 2020-га я ўбачыў, адчуў, што апошнюю чвэрць жыцця пражыў, пратрываў не дарма. Пасеенае ўзышло, жыццё ўсё ж, як вы сказалі, зрабіла падарунак. Падаравала свята. Але пасля падаўлення беларускай рэвалюцыі годнасці, забойстваў і катаванняў, здзекаў з ні ў чым не вінаватых людзей, глумлення з нацыянальных сімвалаў, культуры, мовы, — усяго, што для мяне святое, пачуццё свята пацяснілася пачуццём віны: я не змог гэтага не дапусціць.

Вось глядзіце: чалавека ні за што арыштоўваюць і садзяць у турму. Вядома яго імя, вядомая турма, у якую яго пасадзілі. Ён нарадзіўся беларусам, ён грамадзянін Рэспублікі Беларусь, адна з дзяржаўных моваў якой — па Канстытуцыі! — беларуская. І ён просіць турэмшчыкаў размаўляць з ім на роднай мове. На дзяржаўнай беларускай. А яго за гэта дручкамі — і ў карцар! Раз просіць — у карцар! Два просіць — у карцар! Для перавыхавання з беларуса ў рускага са знакамі якасці. А знакі гэтыя — сляды дручкоў!..

Вось як мне, беларускаму паэту, глядзець на тое, як знішчаецца не толькі мова, а ўсё беларускае ў Беларусі?.. І як ставіцца да ўлады, якая не толькі дазваляе знішчаць, але і заахвочвае знішчальнікаў, даючы ім права беспакарана забіваць тых, хто ў сваёй краіне, як кажа ўлада, «лішнія людзі»? Якія лішнія людзі, як такое можа быць?!

Паэт, пісьменнік, наогул гуманітарый не можа такой уладзе служыць. Лаяльнасць да сябе такая ўлада можа толькі купіць. І толькі ў тых, хто не мае ніякага нацыянальнага маркёра…..

***— Як і шмат хто іншы, я зачытвалася вашымі кавіднымі нататкамі. Гэта будучы сюжэт?***

— Я перахварэў на кавід цяжка. З гарачкай, кашмарамі. Баяўся сканаць. Калі ўсё ж ачуняў, дактары сказалі, што баяўся не дарма. Але ўбачыўшы той кашмар, які дзеецца ў нашай краіне ў рэальнасці, падумаў: можа, лепш бы не ачуньваў?..

З гэтых кашмараў і з гэтай рэальнасці і нарадзіўся сюжэт.

Я перакананы, што кавід мае лабараторнае паходжання. Як і чаму ён збег з лабараторыі — частка сюжэта. Але не асноўная.

Памятаеце гісторыю пра марскі круізны лайнер, на якім яшчэ год таму ўсчалася ланцуговая рэакцыя каронавіруса, пра што пісалі ўсе СМІ. Лайнер прышвартавалі ў японскім порце, але ні пасажыраў, ні каманду (амаль чатыры тысячы чалавек) не пусцілі на бераг. Ізалявалі на караблі — і я ўявіў, што на ім тварылася! Сітуацыя страшней, чым на «Тытаніку», бо там пагроза была ўсім вядомая, вада, а тут — невядома што! І ад гэтага невядома чаго людзі задыхаюцца, паміраюць, усе ўсіх у гэтым падазраюць, і ніхто ад гэтага ніяк і нідзе ўберагчыся не можа — хіба толькі рыбінай стаць і ў вадзе ўратавацца. У выратавальнай стыхіі, якая для «Тытаніка» была пагрозай.

Чалавецтва ў пандэміі, у аўтарытарызме, таталітарызме, у кашмарах, якія само яно стварае і за якія адказвае, — вось асноўны сюжэт задуманага твора, які пачаў паціху пісаць. Паціху, бо яшчэ ад папярэдняга рамана «Гэй Бэн Гіном» не адышоў. Кожны раман, кожная паэма забірае ў мяне вельмі шмат энергіі, эмоцый, сіл, і патрэбны нейкі час, каб зноў іх набрацца.

***— Няма жадання пераасэнсаваць пражытае і перажытае, каб пайсці нейкім іншым шляхам чарговыя 25 гадоў?***

— Па-мойму, я ўжо не раз адказваў на падобныя пытанні. Так што магу сябе самога цытаваць...

Ці не шкадую пра зробленае, ці не хацеў б нешта перарабіць? Ні пра што не шкадую! Пра што шкадаваць, калі нічога нельга перарабіць? Калі ўсё не зэаду, а наперадзе, колькі б яго, таго, што наперадзе, ні засталося...

*(скарочана)*

*Рэдакцыя «Новага Часу» шчыра віншуе Уладзіміра Някляева з днём народзінаў! Жадаем добрага настрою, аптымізму, моцнага здароўя і плёну, а таксама доўгіх гадоў жыцця ў вольнай незалежнай Беларусі!*

**Аксана Колб**
**«Новы Час»**

ПАЛІТЫЧНЫ ПРЫСУД

# «БЕЗУМНЫЙ СРОК — ЗА ВЕРУ В ИДЕЮ»

**Виктор Бабарико приговорен к 14 годам колонии. «Однажды нам будет сложно объяснить своим внукам, что это действительно происходило». Так прокомментировала демократический лидер Беларуси Светлана Тихановская приговор Виктору Бабарико.**

Бывший председатель правления «Белгазпромбанка», экс-претендент на пост президента страны Виктор Бабарико приговорен к 14 годам лишения свободы с отбыванием наказания в колонии в условиях усиленного режима.

Решение вынес 6 июля судья Верховного суда Игорь Любовицкий. У Бабарико не будет возможности обжаловать приговор.

Он признан виновным в отмывании средств, полученных преступным путем (ч. 2 ст. 235 Уголовного кодекса), а также в получении взятки в особо крупном размере (ч. 3 ст. 430 УК).

Инкриминировавшиеся ему преступления Бабарико не признал в полном объеме.

Прокурор Сергей Гиргель запрашивал для Бабарико 15 лет лишения свободы в колонии усиленного режима, а также штраф в размере 5 тыс. базовых величин (145 тыс. рублей). Защита просила суд оправдать его за отсутствием состава преступления.

Судебное разбирательство длилось более четырех с половиной месяцев. Экс-банкир находится под стражей с 18 июня 2020 года.

На вынесение приговора прибыли дипломаты, в том числе представители Евросоюза. В зал заседаний не смогло попасть более 100 человек. Адвокат Бабарико Дмитрий Лаевский был встречен аплодисментами.

Слушания уголовного дела в отношении Бабарико и других представителей «Белгазпромбанка» начались 17 февраля. Несмотря на то, что суд объявлен открытым, негосударственным СМИ в аккредитации на процесс было отказано.

В деле восемь обвиняемых, семь из которых обвинялись в получении, а один — в даче взятки. До начала основного процесса пресс-служба Верховного суда сообщила, что с шестью обвиняемыми «заключены досудебные соглашения о сотрудничестве».

Всем также вынесены обвинительные приговоры. Бывший зампред правления «Белгазпромбанка» Сергей Шабан получил 6 лет лишения свободы, еще один зампред Дмитрий Кузьмич — 6,5 года, и.о. председателя правления Кирилл Бадей, зампреды Сергей Добролет и Александр Ильясюк — по 5,5 года, основатель компании «Активлизинг» Виктор Кобяк — 3 года, бывший первый зампред правления банка Алексей Задойко — 5 лет «домашней химии».

Виктор Бабарико своей вины не признал, поэтому на сделку со следствием не пошел. В ходе суда он заявил, что считает уголовное преследование необоснованным и политически мотивированным. Эти действия, по мнению Бабарико, изначально преследовали одну цель — не допустить его участия в президентских выборах.

О своем участии в президентских выборах 56-летний Виктор Бабарико заявил 12 мая 2020 года. Тогда же он ушел со своей должности в банке, которую занимал 20 лет.

11 июня в «Белгазпромбанке» и ряде других коммерческих компаний прошли обыски. Александр Лукашенко заявил, что проверка деятельности «Белгазпромбанка» проводится по его поручению. При этом он утверждал, что никакой политической подоплеки в данном деле нет.

18 июня Бабарико и его сын Эдуард, который руководил его инициативной группой, были задержаны по подозрению в совершении экономических преступлений. С тех пор они содержатся в СИЗО КГБ. Правозащитники признали Виктора и Эдуарда Бабарико политическими заключенными.

Виктор Бабарико считался основным соперником Лукашенко на президентских выборах. Во время участия в президентской кампании команда бывшего банкира собрала свыше 434 тысяч подписей за его выдвижение кандидатом в президенты (для регистрации достаточно собрать 100 тысяч подписей), однако в регистрации ему было отказано.

**«Верим ли мы в себя сами?»**

«Безумный срок человеку, который решил пойти в политику и стал одним из лидеров, которые разбудили страну от долгого сна. 14 лет — за веру в идею: однажды нам будет сложно объяснить своим внукам, что это действительно происходило. Но Виктор говорил, что стране нужен хороший менеджер, и я знаю, что настанет время, когда такой менеджер поможет нам с вами отстроить страну», — так прокомментировала приговор демократический лидер Беларуси Светлана Тихановская.

«Сегодня я не хочу говорить о репрессиях и чудовищных сроках: ведь режим делает всё это, чтобы убить в нас любые другие мысли, хоть отдаленно похожие на веру и надежду. Но для Виктора — как и для тысяч невиновных людей в тюрьмах — ценнее всего надежда в наших сердцах. Ради этой надежды он не пошел на сделку с режимом. И он по-прежнему верит в нас. Но верим ли мы в себя сами? Виктор Бабарико уже больше года в тюрьме. И только от нас с вами зависит, превратится ли этот год в 14 лет», — отметила Тихановская.

Приговор Виктору Бабарико также прокомментировало посольство США.

«Жестокая фальшивость судебной системы Беларуси демонстрируется сегодня приговором Виктору Бабарико, который показывает, что режим Лукашенко не остановится ни перед чем, чтобы сохранить власть», — говорится в заявлении американского посольства на его странице в «Твиттере».

**"БЕЛАПАН"**
**naviny.online**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 15.07.2021 у 17.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.